*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 12 (500) 21 САКАВІКА 2001 г.

# “НАША СЛОВА” № 500

## У 500-ты раз мы звяртаемся да беларусаў ува ўсім свеце:

***“Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі”***




*Васіль Быкаў*

## “Нашаму слову”



“Наша слова” – газэта нацыі, яе шматпакутнае мовы, якой цягам стагодзьдзяў выкручвалі рукі і адсякалі ногі. Яе ўсё клалі ў дзясяткі пракруставых ложкаў, мералі і перайначвалі. Зладзеі і дабрадзеі. Дамагаючыся ці то жыцьця, ці пагібелі. Часам подла і цынічна выдзіралі з яе рота язык, кажучы, што яна так хоча – каб без языка, бо ў тым яе дэмакратычная воля, якой нельга грэбаваць. Яна ад тых клопатаў даўно павінна была б памерці, а яна неяк жыве.

Беларуская мова – самая парадаксальная мова ў самым парадаксальным сучасным сьвеце.

Яе зламысьнікі кажуць, што яна нікому не патрэбная, нават ейным гістарычным носьбітам. Тое можа падацца за праўду, калі палічыць, колькім тым носьбітам не спатрэбілася і жыцьцё. І сырой зямлі патрэбна хіба два аршыны. І зламысьнікі, выдатна разумеючы тое, найперш пазбаўлялі беларусаў жыцьця. Курапаты – ня толькі генацыд, але ў ня меншай ступені і лінгвацыд. Тое, аднак, у мінулым. А што ў сучасным?

А ў цяперашнім пакуль што – барацьба. Барацьба за мову – то палітычная барацьба. І эканамічная. І культурніцкая. Татальная барацьба за жыцьцё супраць азьвярэлых насарогаў, якія выдатна разумеюць: цяпер альбо ніколі.

Але і беларусы павінны зразумець тое.

Апошні вагон таго цягніка, на які яны калісь спазьніліся, замарудзіў ходу, даючы магчымасьць на яго ўскочыць. То – воля Боская, не чалавечая, і людзі павінны зразумець Боскі замысел. Нават калі той цягнік паляціць пад адхон, ёсьць пэўны шанец камусьці на ім уцалець. У чумна-сухотным балоце шанцу няма ніякага.

Значыць, мова – наш лакаматыў паратунку.

Але ці выцягне моўны лакаматыў хворую нацыю, во ў чым праблема. Ужо зразумела, што калі ня выцягне мова, дык ня выцягне і палітыка. А эканоміка і пагатоў. Іхні рэсурс – на гады, моўны ж – на стагодзьдзі. Шкада, што тыя стагодзьдзі сканчаюцца…

Доўга і шчасьліва шчыраваць “Нашаму слову”!

## Шаноўныя калегі!

Віншуем вас з выхадам пяцісотага нумару “Нашага слова”!

Моваэнаўцы цвердзяць, што пяцісот словаў дастаткова, каб аднаму чалавеку паразумецца з другім. Зычым вам папаўняць беларускі слоўнік усё новымі і новымі “Нашымі словамі”, каб паразумецца з усім светам.

Новых вам “Словаў”, юбілеяў, чытачоў.

*Праўленне Беларускай асацыяцыі журналістаў.*

## Шаноўныя калегі!

Віншуем вас з юбілеем – 500-м нумарам газеты. Шчыра радыя за вас і вашае выданне, якое, нягледзячы на ўсе скалаланасці, перашкоды нясе аб'ектыўную інфармацыю да чытача праз беларускае слова. Жадаем творчых поспехаў, як мага больш прыхільнікаў і чытачоў. А самае галоўнае: сілаў і трываласці.

Жыве Беларусь!

*Асацыяцыя “Рэгіянальная прэса”.*

# 25 сакавіка 83 гады БНР

Анатоль Грыцкевіч, доктар гістарычных навук, прафесар

## Найвялікшая падзея ў гісторыі Беларусі

25 сакавіка 1918 г. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, выконваючы волю Усебеларускага з'езду 1917 года і маючы на гэта ўсе паўнамоцтвы, абвесціла Беларусь вольнай і незалежнай дэмакратычнай рэспублікай. У трэцяй Устаўной грамаце Рады БНР было заяўлена: "Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Незалежнай і Вольнай Дзяржавай". Ад гэтага часу дзень 25 сакавіка з'яўляецца нацыянальным святам беларускага народу – Днём Волі, Днём Незалежнасці.

Да Дня Волі беларускі нацыянальны рух прайшоў цяжкі шлях змагання спачатку з царскім рэжымам Расійскай імперыі, а потым і з бальшавіцкім. Ідэю незалежнасці Беларускай дзяржавы выпрацоўвалі ў 1915-1918 гг., ва ўмовах першай сусветнай вайны розныя беларускія партыі і арганізацыі. Лозунг стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі прагучаў і ў снежні 1917 г. на Усебеларускім з'ездзе (у Менску), які быў разагнаны па загаду бальшавіцкага кіраўніцтва Заходняй вобласці і фронту на чале з А. Мясніковым. Незалежніцкія настроі ў беларускім нацыянальным руху ўзмоцніліся менавіта пасля разгрому Усебеларускага з'езду.

Адначасова ў Беларусі ішлі мірныя перамовы паміж дэлегацыямі Савецкай Расіі і дэлегацыямі Нямеччыны і яе саюзнікаў у першай сусветнай вайне. Савецкая дэлегацыя фактычна сарвала мірныя перамовы, і 18 лютага 1918 г. нямецкія войскі пачалі наступ на ўсход. 19 лютага бальшавіцкае кіраўніцтва пакінула Менск і перабралася ў Смаленск. Дзеячы Выканаўчага камітэту Рады Усебеларускага З'езду і Цэнтральнай Беларускай вайсковай рады, якія выйшлі з падполля, абвясцілі сябе часовай уладай на Беларусі да склікання Устаноўчага Сойму і ўзялі ўладу ў Менску. 21 лютага 1918 г. Выканкам Рады прыняў Першую Устаўную грамату да народаў Беларусі, стварыў першы ўрад Беларусі – Народны Сакратарыят Беларусі і перадаў яму выканаўчую ўладу ў краіне.

Нямецкія войскі, перад якімі не было перашкод, бо рэшткі расійскіх войскаў уцякалі ад іх без баёў, занялі Менск і амаль усю тэрыторыю Беларусі (без Віцебска толькі). 3 сакавіка 1918 г. быў заключаны Берасцейскі мір паміж Расіяй і Нямеччынай, з яе саюзнікамі. Пасля падпісання Берасцейскага міру беларускія дзеячы пратэставалі супраць фактычнага падзелу тэрыторыі Беларусі паміж Расіяй і Нямеччынай. Паводле дамовы Расія адмаўлялася ад часткі тэрыторыі Беларусі па лініі Дзвінск – Свянцяны – Ліда – Пружаны – Берасце. Астатняя частка



тэрыторыі Беларусі лічылася расійскай, але заставалася пад нямецкай акупацыяй да моманту выплаты Расіяй Нямеччыне вялікай кантрыбуцыі.

Нямецкія акупанты, заняўшы Менск, забралі грашовую касу Народнага Сакратарыяту і скінулі з яго будынка на Пляцы Волі (Плошчы Свабоды) беларускі бела-чырвона-белы сцяг. Нягледзячы на гэта Выканкам Рады і ўрад працягвалі сваю дзейнасць. 9 сакавіка 1918 г. паводле Другой Устаўной граматы Выканаўчы (Спаўняючы) Камітэт Рады абвясціў Беларусь Народнай Рэспублікай. 18 сакавіка Рада Усебеларускага з'езду была ператворана ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі, а шэсць сяброў Віленскай Беларускай Рады, якая яшчэ раней выказалася за незалежнасць Беларусі, у тым ліку браты Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, былі кааптаваныя ў склад Рады БНР, што ўзмацніла незалежніцкую групоўку ў складзе Рады.

23 сакавіка 1918 г. дэлегацыя сяброў Рады БНР прыехала з Вільні ў Менск. Адразу ж А. І. Луцкевіч прапанаваў Народнаму Сакратарыяту абвясціць незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Прапанова была разгледжана на паседжанні фракцыі Беларускай Сацыялістычнай Грамады ў Радзе БНР і пасля спрэчак прынятая. 24 сакавіка а 8-й гадзіне вечара пачалося пленарнае паседжанне Рады БНР. Пасля доўгіх і бурных спрэчак, якія цягнуліся ўсю ноч, а 8-й гадзіне раніцы 25 сакавіка 1918 года большасцю галасоў сяброў Рады БНР была прынята Трэцяя Устаўная грамата. Супраць прыняцця граматы (а значыць, і незалежнасці Беларусі) прагаласавалі прадстаўнікі земстваў і грамадскіх думаў (з рускамоўнай інтэлігенцыі) і яўрэйскай сацыялістычнай партыі Бунд. Пасля прыняцця Трэцяй Устаўной граматы яны выйшлі са складу Рады БНР. Сябры

Аб'яднанай яўрэйскай сацыялістычнай партыі і расійскія эсэры ад галасавання ўстрымаліся.

Трэцяя Устаўная грамата абвяшчала Беларусь "незалежнай і вольнай дзяржавай". У тэксце граматы гаварылася: "На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя сувязі, якія далі магчымасць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь кантракт у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі".

Акт 25 сакавіка 1918 г. меў вельмі вялікае значэнне. Ён перакрэсліў праекты ўтварэння федэрацыі Беларусі з Расіяй, альбо з Літвой ці Польшчай. Пачалася барацьба за ажыццяўленне абвешчанай незалежнасці. Умовы былі неспрыяльныя для Беларусі. Большая частка яе была акупавана Нямеччынай, а ўсходняя тэрыторыя была ў складзе Расійскай савецкай федэрацыі. Урады Нямеччыны, Аўстра-Венгрыі і Расіі не прызналі незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.

Урад БНР дзейнічаў у галіне дзяржаўнага будаўніцтва, у прафесіянальна-эканамічнай і культурна-асветнай галінах. На Беларусі за некалькі месяцаў былі ўтвораны сотні беларускіх школ, а ў буйных гарадах дзейнічалі беларускія гімназіі. Выходзілі дзесяткі беларускіх газет і часопісаў, пачалі дзейнічаць культурна-асветныя гурткі і таварыствы, тэатры. У канцы 1918 г., карыстаючыся паразай Нямеччыны ў першай сусветнай вайне, урад Беларускай Народнай Рэспублікі пачаў ствараць вайсковыя адзінкі, аднак да прыходу Чырвонай арміі не паспеў іх разгарнуць у армію.

Савецкі ўрад Расіі на чале з У. Леніным вырашыў узнавіць расійскае панаванне на Беларусі. Чырвоная армія заняла тэрыторыю Беларусі, і незалежнасць Беларусі была ліквідавана бальшавікамі. Аднак абвяшчэнне незалежнасці Беларусі мела і свае наступствы. ЦК Расійскай кампартыі (бальшавікоў) на чале з У. Леніным вымушаны быў улічыць поспехі беларускага нацыянальна- вызвольнага руху і, са свайго боку, 1 студзеня 1919 г. абвясціць Беларускую Савецкую рэспубліку, цалкам залежную ад Масквы, несамастойную, але ўсё ж нацыянальную.

Рэха акту 25 сакавіка 1918 года аб абвяшчэнні незалежнай Беларусі сягае і нашых дзён. Менавіта гэты акт стаўся ўзорам пры абвяшчэнні незалежнасці Беларусі ў канцы ХХ стагоддзя. У перыяд развалу Савецкай імперыі пад націскам апазіцыі БНФ Вярхоўны Савет Беларусі 27 ліпеня 1990 г. прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. 25 жніўня 1991 г. Вярхоўны Савет БССР прыняў закон "Аб наданні статусу канстытуцыйнага Закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі", а 19 верасня 1991 г. – аб новай назве дзяржавы: Рэспубліка Беларусь.

25 сакавіка застаецца сімвалам барацьбы беларусаў за незалежнасць сваёй дзяржавы, супраць інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі ў любым выглядзе (саюзу, саюзнай дзяржавы), сімвалам барацьбы за вяртанне незалежнага месца ў нашай краіне беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай мовы, за сапраўды дзяржаўную палітыку ў дачыненні да нацыянальнай культуры, сімвалам барацьбы беларускіх патрыётаў за дэмакратычную рэспубліку супраць дыктатарскага рэжыму, сімвалам барацьбы за правы асобы ў нашай дзяржаве.

Віншую ўсіх грамадзянаў Рэспублікі Беларусь і нашых суродзічаў за яе межамі з вялікім нашым святам і жадаю добрага здароўя, духоўнай сілы і поспехаў у здзяйсненні ідэалаў 25 сакавіка – дзяржаўнай незалежнасці нашай краіны.

Жыве Беларусь!

*Анатоль Грыцкевіч, Старшыня Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па святкаванні Дня Незалежнасці.*

## Раман Скірмунт – удзельнік беларускага Адраджэння



Раман Скірмунт нарадзіўся ў 1864 годзе ў маёнтку Парэчча ў сям'і памешчыка Аляксандра Скірмунта. З самага дзяцінства ён выхоўваўся ў духу любові да сваёй Бацькаўшчыны. Раман быў вельмі адукаваным чалавекам. Ён скончыў юрыдычны факультэт Варшаўскага і філасофскі факультэт Венскага універсітэтаў.

Пасля заканчэння вучобы Раман вяртаецца ў родныя мясціны. Ён дапамагае бацьку ў вядзенні гаспадаркі.

У гады першай расейскай рэвалюцыі Раман Скірмут уключыўся ў вірлівае палітычнае жыццё. Ён быў абраны дэпутатам Дзяржаўнай Думы ад Беларусі.

З пачаткам беларускага Нацыянальнага Адраджэння Раман Скірмунт прымае ў ім самы актыўны ўдзел. У беларускім друку ў Вільні, Менску, Пінску з'яўляюцца некалькі яго артыкулаў. Так, у беларускай газеце "Наша доля" ў 1906 годзе і ў Беларускім сялянскім календары, выдадзеным ў Вільні ў 1910 годзе Раман Скірмунт піша аб стане сельскай гаспадаркі Палесся.

Адначасова ў 1908-1910 годзе Раман Скірмунт робіць рэканструкцыю ў ніжняй палове Парэцкага парку. Разбіваюцца новыя алеі. У парку з'яўляюцца рэдкія пароды дрэваў і сасна Веймута, пінія каліфарнійская, балотны кіпарыс, цюльпанавае дрэва і іншыя.

Мястэчка Парэчча ў тыя часы славіцца суконнай фабрыкай, пабудаванай ў 1860 годзе бацькам Рамана Александрам. Сукно з Парэчча карысталася вялікім попытам ў свеце. На сусветнай выставе ў Парыжы ў 1900 годзе парэцкае сукно атрымала залаты медаль. У 1904 годзе залаты медаль – Брэменскага кірмашу, у 1906 годзе золата Вены. Усяго да 1914 – шэсць залатых медалёў.

У 1914 годзе пачалася першая сусветная вайна. У 1915 годзе нямецкія войскі акупавалі маёнтак Парэчча. Самае сучаснае і дарагое абсталяванне, на закуп якога пайшлі гады і немалыя сродкі – вывозіцца ў Нямеччыну. Раман Скірмунт як дбайны і руплівы гаспадар перажывае вялікі шок. Другое вялікае гора – смерць бацькі.

У 1916 годзе Раман Скірмунт прысутнічае на спатканні сяброў Беларускай Грамады ў Вільні. Грамада вітае ідэю аднаўлення Вялікага Княства Літоўскага. Раман, як чалавек дасведчаны, асцярожны ставіцца да гэтае ідэі. "Не прыспеў яшчэ такі час", - гаворыць Раман.

Вясной 1917 года бурліць беларускае жыццё. 25 сакавіка 1917 года ствараецца Беларускі нацыянальны камітэт. На чале яго – Раман Скірмунт.

Восенню 1917 года Раман Скірмунт – сябар Аргкамітэту Падрыхтоўкі Усебеларускага з'езду. Ён адзін з галоўных кіраўнікоў Вялікай Беларускай Рады.

У снежні 1917 бальшавікі гвалтам разганяюць Усебеларускі з'езд. Раман на некалькі месяцаў вяртаецца ў Парэчча.

25 сакавіка 1918 года загарэліся зоркі надзеі – была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. У жніўні 1918 яе другім прэм'ерам становіцца Раман Скірмунт.

Пасля прыходу бальшавікоў у Менск у 1920 годзе Раман зноў вяртаецца на Палессе. Ён займаецца дабрачыннасцю: дапамагае бедным і гаротным. Каля 20 чалавек з розных куткоў Піншчыны ў 1925-1935 гадах з дапамогай Рамана атрымалі сярэднюю і вышэйшую адукацыю ў навучальных Польшчы. У тым ліку бацька аўтара артыкула – Кучынскі Георгі, сын парэцкага селяніна, які на стыпендыю ад Рамана вучыўся ў Пружанскай, а затым – у Беластоцкай настаўніцкай семінарыі.

Не губляў ён сувязі з нацыянальна свядомымі людзьмі. У яго маёнтку бывалі Станіслаў Булак-Булаховіч, Антон Луцкевіч і іншыя.

Вельмі сумуе Раман па раздзеленай у 1921 годзе Рыжскай дамовай Бацькаўшчыне. У лісце, у 1930 годзе, да свайго кузэна Канстанціна, Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Польскай Рэспублікі ў Англіі, ён піша: "Шкада шаноўны, Кастусь! Што Радзіма раздзеленая! Што мы не можам сустрэцца разам у Менску".

Набліжаліся грозныя часы – заключэнне пакту Молатава – Рыбентропа. У жніўні 1939 года Канстанцін піша Раману з Лондану: "Дарагі браце! Тэрмінова прадавай маёнтак і ад'яджай за мяжу. Бяда набліжаецца да Радзімы". Але Раман застаецца ў Парэччы.

Трагедыя здарылася ў лістападзе 1939 года. Два мясцовыя жыхары Усцім Пархамчук і Яўхім Саколік зверскі забілі слаўнага сына беларускага народа. Мінулі гады. Але імя Рамана Скірмунта застаецца ў сэрцах сапраўдных патрыётаў Бацькаўшчыны.

*Валеры Кучынскі.*





# 21-га сакавіка - Сусветны дзень паэзіі

**21 сакавіка – Сусветны дзень паэзіі, прызначаны генеральнай канферэнцыяй UNESCO у 1999 годзе. Міжнародны ПЭН-клуб і ўсе ягоныя нацыянальныя ПЭН-цэнтры святкуюць гэты дзень вечарынамі, выступамі, публікацыямі. "Наша слова" далучыцца да свята і прапануе ўвазе чытачоў вершы беларускіх паэтаў.**

## Рыгор Барадулін



### Урок беларускае мовы

Вымаўленне,
Як да нябёсаў маленне
Дубровы,
Адкрытае.
З адкрытай душой
Наш люд несуровы,
Мы злосць не трымаем
У прытаі.

У пашане кожная
Літара выбуховая,
Яна адразу
Як абразы
Сябе ахоўвае.
Радасці цесна ў шыбах –
Выбух!
Вірам глуха ў глыбах –
Выбух!

Паўнагалоссе,
Як тое паўнакалоссе
На ніве веры.
Гаспадары, прымайце дары,
Застольцы ў гонар мілосці
Агалашайце,
Усіх запрашайце ў госці.
У нас шырокія дзверы!

Мы гакаем,
Як і прашчуры нашыя хакалі,
Калі ляды здрады
Бязлітасна карчавалі
І. Небам зорным акрыўшыся,
Начавалі.

Каб чужымі ўрокамі
Душу гашую не ўракалі,
Беларускія словы высокія
Звіняць
Недасяжнымі жаўрукамі.

### Пачуй...

Дамінічка шэпча "Ойча наш" –
Вечнасці пакорыцца ўнiятка.
Божа,
Ты пачуй сваё ягнятка,
Просьбу незапыленую ўваж.

У турме жыцця
Душа ў яе
Звонкая,
Як ранняя крынічка.
З даланятак
Кволая каплічка
Чысцінёй да неба дастае.

Слова беларускае знава
Міласцівіць, першаадкрывае
Дамінічка –
Краска лугавая.

Не шумі, будзённая трава...

### Адкажы...

З пашанай ядуць нас,
Як хлеб аржаны,
Манерыстая господа,
Кавалерыстыя паны.
А мы, зняверaныя спадары,
Не гаспадары
І ў сваім двары.
Ці гэта наканавана небам
Быць некаму хлебам,
Каб жыццё не звялося,
Адкажы, калі можаш,
Лёсе...



## Сяргей Законнікаў

### Сцяг жыцця

Яго неаднойчы з ненавісцю лютай
За дрэўка хапалі,
нібыта за горла,
І долу хілілі,
каб зведаў пакуты...
Сцяг жыцця
застаецца гордым.

Яго абліваюць свае і прыблуды
З вар'яцкім хіхіканнем,
рогатам,
свістам
Гнілымі памыямі,
чорным брудам...
Сцяг жыцця
застаецца чыстым.

Яга на шляху агнявым,
пакручастым
Драпежная зграя спрабуе знявечыць:
І паліць,
і топча,
і рэжа на часткі...
Сцяг жыцця
застаецца вечным.

Насуперак енку
фальшывых пракокаў,
Якія пускаюць абразы,
як стрэлы,
Не сыдзе ў нябыт
і не выпадзе з вока
Сцяг жыцця –
бел – чырвона – белы!

### Стамілася душа

Стамілася душа мая,
Стамілася:
ад здрады,
ад вар'яцтва,
ад хлусні.
Куды б яна з даверам ні тулілася,
не можа адшукаць ніяк радні.

Скрозь – самажэрства,
і яно прычынаю,
што край свабодны гоняць у хаўрус.
Скажы:
"Ці можна гандляваць Айчынаю?"
Маўчыць электаратны беларус.

Ён падавіўся нечаканай воляю,
Яму ў чарзе прывычней і прасцей.
Без гузікаў брыдзе,
а задаволены –
Здабыў кавалак хлеба для дзяцей!

Зноў глупства
на кругі свае вярнулася
І кожнага балюча закране.
Камічна паўтараецца мінулае,
Ды толькі не да смеху сёння мне.

Няма ў жыцці ні шчырасці,
ні міласці,
Душу крыжуюць
стрэсавыя дні.
Стамілася яна,
ушчэнт стамілася,
І ўсё ж прашу:
"Навечна не засні..."

## Генадзь Бураўкін

* * *

У век неразбярыхі
Між вар'ятаў
Не выжыў бы ніколі я,
Калі б
На свеце не было
Бацькоўскай хаты,
Зімовых соснаў
І вясновых ліп.

Калі б не меў ратунку –
Пры патрэбе,
Каўтнуўшы ёлкай роспачнасці ком,
Параіцца
З начным высокім небам
І споведным купалавым радком.

Быць можа,
Д'яблу я душу аддаў бы,
Паслухаўшы, як маняць каралі,
Калі б зусім не ведаў
Простай праўды,
Вялікай праўды плуга і раллі.

Быць можа,
Горка плачучы,
Манеце
І кулаку
Пайшоў бы на паклон,
Калі б не ведаў,
Што бяда мінецца
І застанецца чорнай працы плён.

Вось і трываю на зямлі таму я.
І веру непахісна,
Што жыццё
Нарэшце ўсіх вар'ятаў утаймуе
І кіне іх навекі ў забыццё...

* * *

Ну што, Беларусь, у цябе за сыны? –
Хто быў паштаром,
Плугаром
Ці падпаскам,
Як толькі праб'ецца хоць трохі ў чыны,
Забыць цябе лічыць сваім абавязкам.

Ад хлева вясковага вернуць лычы,
Хоць бацькава сала ядуць як заўзычай
І матчыну мову гатовы лічыць
І "беднай",
І "хамскай"
І проста "мужычай".

Не лезе у вушы ім даўні назоў,
Псуецца настрой ад бабуліных строяў.
Зусім ім не трэба
Ні нашых князёў,
Ні нашых пракокаў,
Ні нашых герояў.

Хоць ты з іх і крыжык нацельны здымі,
Ніхто перад крыўдай тваёй не заплача...
Ну што тут паробіш –
У кожнай сям'і
І з сынам часамі бывае няўдача.

Ну што ж,
Калі нехта гатоў і чалму
Надзець,
Каб на месцы сваім утрымацца.
Адно толькі сэрца сціскае:
Чаму,
Чаму іх так многа ў цябе,
Мая Маці?..



* * *

... Ідзе ў кабінетах высокіх гульня,
Бушуе манкрутаў гарластая рацы:
Ці мову мяняць,
Ці дзяржаву мяняць,
Ці, можа, абедзве суседу аддаць ...

Усё, як у хворым прыдуманым сне ...
Не дай Бог дажыць да часіны,
Калі
Унук нас на мове чужой пракляне
За тое,
Што родную не зберaглі ...





*Янка Брыль*

# ШЧАСЛІВА ДЫХАЦЬ



Ранішняя радыёперадача "Вясковыя ростані". Іўеўскія жанчыны гавораць з журналісткай на такой свабоднай, натуральна прыгожай роднай мове,што люба слухаць. Каб не іх справядлівыя скаргі ды недаўменне...

Адна сказала:

- ***Нараніцы прачынацца страшна...***

Такое жыццё.

* * *

Элегантная спадарынька, інстытуцкая выкладчыца, і так прыемная сваёю мілавіднасцю, а як сказала зямлячка пра нядаўняе наведанне сваёй вёскі, а там і пра такое: "***Чую раненька – мамка мая шамоль-шамоль за перагародкай і пайшла...***" – стала яшчэ мілейшай.

У слоўніках "***шамолю***" не знайшоў. Ды ўжо і наракаць на іх, на слоўнікі, апрыкрыла.

* * *

Маем добрае, ёмкае: ***збожжа, збажына***, адпаведнае рускаму ***хлеб*** у шырокім значэнні. А зноў жа пішам, гаворым па радыё і з тэлеэкрана з халуйскай руплівасцю ***збожжавыя***, ад рускага ***зерновые***.

Чаму ж тады не ***бульбавыя?..***

* * *

Успомнілася слова ***выскрабак*** – і той маленькі боханчык з рэштак цеста ў дзяжы, гарачы і духмяны падарунак малому ад маці, і тое яшчэ значэнне слова пра найменшага ў сям'і, любімага мамай ці не найбольш з усіх народжаных ёю, бо апошненькага ў шчасці і пакутах мацярынства.

А ***выскрабак*** наш – ***колобок*** па-руску, **chlebek** папольску, яшчэ раз ***колобок***, па-украінску, - гэта ж так казачна хораша, з невычэрпнай паэзіі маленства.

* * *

Вясельнаму свату, чараўніку народнага слова, якім трэба было ці нарадзіцца, ці вырабіцца энцыклапедыстам, часцей за ўсё непісьменным, якую трэба было мець фантазію, якое ўяўленне, каб належна спраўляцца з такою процьмай прыкметаў, павер'яў, жартаў, анекдотаў, чаго працоўная вёска за свае бяспраўныя стагоддзі назапасіла!

А яшчэ ж і такая чарадзейка слова, як бабуля-павітуха, - тут ужо на адведках ды хрысцінах.

Ды ўсё ж аднаго такога носьбіта ці адну такую носьбітку народнага багацця цяжка ўявіць праяўленага ці праяўленую поўнасцю ў адной асобе. Кожны патроху, кожнаму свая слава ў родным кутку.

* * *

***Я стараўся пісаць добра на роднай мове...*** Не, так нельга сказаць. Як быццам я стараўся, практыкаваўся дыхаць чыстым паветрам, - а я ж ім шчасліва дыхаў!..

* * *

Не так шукаю патрэбнага слова, як яно само ідзе да мяне з запасу напрацаванага за гады шукання ды знаходжання, ідзе, як быццам хтосьці шчыра паслужлівы шэпча мне з-за патыліцы: трэба вось так. І я бяру яго, найбольш патрэбнае слова, у любай, неабходнай паслухмянасці.

* * *

Адчуванне ціхай удзячнасці кнізе, якая па-матчынаму верна, цярпліва чакала, калі я вярнуся да яе зноў.

Так я сёння гартаў двухтомнік Уладзіміра Дубоўкі, выдадзены неўзабаве пасля заканчэння ягоных..., ой, доўгіх сібірскіх пакутаў.

На гэты раз захацелася перакладаў, у другім томе. І я з асалодай чытаў Славацкага і Сыракомлю ў таденавітым перастварэнні старога, надзейнага майстра.

* * *

На сустрэчы з "першацветаўцамі", студэнтамі і вучнямі старэйшых класаў, раіў ім вывучаць замежныя мовы, каб пасля самім несці роднае слова іншым народам.

Бо чакаць, што нашу мову будуць вывучаць, каб знаёміцца з нашай літаратурай, цяжка...

* * *

Учора, прыйшоўшы са школы, унук пазваніў мне, каб пагаварыць на роднай мове, якою ён старанна заняўся. Калі я адказаў на яго пытанне, што цяпер раблю, ён сказаў, што болей любіць чытаць рускае ў арыгінале. Ды ўжо і ўкраінскае таксама, пакуль што толькі "Кабзар". І тут філасаф на трынаццатым годзе здзівіў мяне здаровым разуменнем справы. Добра перакладаць на нашу мову і рускую класіку трэба для будучыні, калі нашы школы падрыхтуюць нацыянальна свядомага чытача. Так і я думаў днямі, гартаючы прыгожа выдадзены том расійскай дзіцячай літаратуры ў старанных, больш і менш удалых перакладах.

* * *

"Мы далі б вам большую аўтаномію, чым даюць рускія". З такой нахабнай прыязнасцю гаварыў мне гэта ў канцы 1987-га шаноўны пан Н., прафесар, ідучы побач па нашай зямлі.

Так думаюць дый гавораць і рускія дэмакраты, на свой лад, лічачы не менш нахабна, што і яны маюць нейкае права камусьці даваць або не даваць, грубай, бязлітаснай сілай не дазваляючы яму па боскаму, па чалавечаму праву браць незалежнае самастойна.

Такая ўжо доля слабейшых, калі іх няхай сабе і дзесяць мільёнаў, як нас, або значна менш, як лужыцкіх сорбаў ці кашубаў, або і значна больш, як украінцаў ці курдаў.

* * *

Даўней хто ў лаціну, хто ў польскую, хто ў рускую мовы, бо на свваёй ходу не было.

А сёння літаратурны Ён ці Яна, што ў нас нарадзіўся, што нашай гадоўлі, роднымі карэннямі публічна хваляцца, а кронамі шумяць – чужымі...

Лічыцца ж хочуць, і падаюцца ў свеце і пісьменнікамі, і дэмакратамі... беларускімі. **Сваякі!..**

* * *

Начальнікі ўсіх калібраў, слухаючы беларускія пытанні ды развяжанні радыёкамендатараў, усё-усё разумеюць, на ўсё дакладненька адказваюць. Застаецца толькі самім таксама загаварыць, чаго – не раўнуючы, а ўслед за прыказкай, - не могуць і сабакі.

* * *

Колькі нагаворана з іхняга і з нашага боку пра неабходнасць аб'яднання, але ж ні слова – ні ў друку, не па тэлевізары, ні па радыё – пра тое, што апаганьваецца, ліквідуецца мова нашага народа, найгоршым, найзлачыннейшым, як дагэтуль, чынам. Такое жахлівае "**між іншым**"!

* * *

"Кнігарня пісьменніка". Завал літаратуры рускамоўнай і амаль нічога беларускага. Як выдаецца, так і прадаецца. Самасільна рыхтуемся да братняга ўз'яднання...

* * *

Пасля цікавай, шматлюднай сустрэчы з моладдзю ў Купалавым музеі – "Кніжны клуб ТБМ" – падумалася, што вертыкальныя культурнікі, трэба думаць, ужо даўно мяркуюць, як гэта знайсці спосаб больш падкантроліць нашы музеі, як падкантролілі Дом літаратара, у планавым заціску нацыянальнага, народнага, называючы яго толькі апазіцыйным, бэнэфаўскім, а то і нацыянал-фашысцкім...

Ох, каб не накаркаць!...

* * *

На тэлеэкране, у перадачы "Роднае слова" – кніжны кірмаш. Цэлае мора-акіян кніг, кніжак, кніжачак, і ўсе такія шматколерныя, і ўсе на рускай мове!...

Сціплы паэт-журналіст снуе ад стала да стала, службова, з мікрафонам пытаецца, а дзе ж такія на яшчэ адной, на карэннай дзяржаўнай мове?... І яму культурна, з падтэкстам адказваюць, што іх, маўляў, ніхто не пытаецца, што нашы людзі думаюць і гавораць, а значыцца і чытаюць па-руску...

Бедны паэт з чорнай "грушай" мікрафона, з якою ён ветліва, як чужы, тыцкаецца да прадстаўнікоў розных выдавецтваў, бачыцца мне ў гэтым шматколерным моры, як самотны да ўпотайадчайны тапелец у дзіравай лодцы з адным вяслом, або нават на нейкай дошцы з разбітага карабля... І не дзіва тут захацець маладушна на белы, велічны, музыкай урачыста раззвонены цеплаход, тым больш, што з яго прапануецца драбінка, працягнутая рука братняй дапамогі: "Давай да нас, навошта табе захлынацца?!"

# *Да 70 - годдзя*

## Аляксея Пяткевіча



***Пяткевіч Аляксей Міхайлавіч нарадзіўся ў мяст. Новы Свержань Стаўпецкага р-на 31 сакавіка 1931 года. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт. З 1957 г. працуе ў Гарадзенскім педінстытуце (універсітэце). З 1991 г. загадчык кафедры беларускай культуры гэтага універсітэта. Кандыдат філалагічных навук. Прафесар. Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў. Сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Старшыня рады Гарадзенскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны (з 1989 г.). Апублікаваў каля 400 навуковых прац. Сярод іх – кнігі: "Сюжэт. Кампазіцыя. Характар" (1981), "Літаратурная Гродзеншчына" (1996), "Людзі культуры з Гродзеншчыны" (2000) і інш.***

***Аляксей Пяткевіч вядомы і слынны дзеяч беларускага нацыянальнага адраджэння. Ён з нешматлікай кагорты непахісных. Усе тыя праблемы, якія раз-пораз стваралі яму то жыццё, то ўлады, не маюць для яго ніякага значэння. Ён перш за ўсё Беларус, а астатняе - потым.***

***Сакратарыят ТБМ рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць Аляксея Міхайлавіча з 70-годдзем і жадаюць плёну ў працы на карысць Бацькаўшчыны.***

## Прыкры суразмовец

У савецкія часы, калі даводзілася выступаць з нейкім дакладам перад неспецыяльнай аўдыторыяй, нярэдка хтосьці з прысутных падыходзіў пасля і хваліў за добрую беларускую мову. Маўляў, яму вельмі да душы прышлося хараство беларускай мовы. Як правіла, гэта быў рускі паводле нацыянальнасці, які жыў на нашай зямлі не адзін дзесятак гадоў, мовай мясцовага насельніцтва не цікавіўся, і яна "пралятала" міма яго як штосьці непатрэбна-надакучлівае. А тут вось неабходна было сядзець, слухаць, і міжволі яму прыйшлося ўразіцца, злёгку, вядома. Бесцырымонны суразмовец дадаваў яшчэ, што з прыемнасцю слухаў менавіта чыстую, правільную беларускую мову. Яму няўцям было, што такая правільная, г.зн. літаратурная мова налічвае стагоддзі свае гісторыі, што на ёй створана вялікая літаратура. Ён мог нават пацікавіцца, адкуль гэта ў мяне ўзялося – добрае веданне роднай мовы. Што ж, савецкая сістэма жорстка нявечыла гаворку моладзі і ў школе, і асабліва ў інстытуце, дзе не толькі выкладалі на дзяржаўнай мове СССР – рускай, а стараліся вытруціць з юнацкіх душ усякую прыхільнасць да роднага, у тым ліку да матчынага слова. Так што інтэлігенты-беларусы, што публічна карысталіся сваёй мовай, успрымаліся рознымі прыхаднямі як экзоты. І ўсё ж мае пакаленне, асабліва з Заходняй Беларусі, не паддавалася нацыянальнаму ўціску. Беларускую мову забываўся той, хто вельмі хацеў забыцца і стаць сапраўдным савецкім чалавекам. Для большасці ж маіх равеснікаў свая мова была – як паветра, якім дыхаеш. Яна была ўсюды – у хаце, на вуліцы, у школе, пакуль школу паступова не зрусіфікавалі ў пасляваенныя часы. Помню, што ў Гародні яшчэ ў 50-я гады на вуліцы часта чулася беларуская мова, як, зрэшты, і польская. Гэта гаварылі карэнныя гараджане. Але іх станавілася ўсё менш, бо сюды скіроўвалі згодна з савецкімі міграцыйнымі планамі людзей з усіх рэспублік СССР. А затым у горад хлынула вёска. Свая вёска, але ўжо савецкая. Яна, чым далей, тым больш спяшалася перарабіцца ў гарадзе на "гарадскі" лад і разам з традыцыйным народна-сялянскай культурай рашуча вырывала з сябе родную мову, не заўважаючы, што гэтым самым вырывала і ўласную душу. Так, з'явіўся новы тып гараджаніна, а разам з ім і вядомая "трасянка". Яна стала дамінаваць у гарадзе, перайшла ўжо і ў вёску, дзе людзі сталага веку пераймаюць яе ў сваіх дзяцей і ўнукаў, якія прыязджаюць на выхадныя і ў летні час. "Трасянку" сёння з поспехам замацоўвае сваёй гаворкай наша чыноўніцтва. Ёй актыўна спрые сучасная русіфікацыя нашай школы, радыё, тэлебачання. І няпрошаны суразмовец савецкага часу, які раптам адкрываў для сябе беларускую мову і паблажліва пахвальваў яе, зараз можа выплысці зноў.

Але прыйшла ў жыццё магутная хваля нацыянальна свядомай моладзі. Гляджу на яе і цешуся. Забягае да мяне на кафедру 5-класнік Сяржук Харытонаў, які хоча стварыць у сваёй рускай школе суполку ТБМ, шчыра цікавіцца беларушчынай. Я слухаю яго натуральную, прыгожую беларускую гаворку і думаю, што той прыкры суразмовец не з'явіцца.

*Аляксей Пяткевіч.*

# 21-га сакавіка - Сусветны дзень паэзіі

*Анатоль Вярцінскі*

### ЖЫВОЕ СЛОВА
**Фрагмент**

Выбраў належную гадзіну –
вясной дыхнула з усіх бакоў, -
і еду да сябе на радзіму,
да лепяльчан, да землякоў.
На душы ў мяне вяснова.
І яшчэ ад таго мне святлей,
што побач – гурт маладых людзей,
цэлы тэатр "Жывое слова".
Усё супала, як нельга лепей –
прадвесне, дарога на родны Лепель,
і тое, як весела мы шумім...
Нямарна завёмся "Словам жывым"!
Слова жывое.
Жывое слова.
Слова інакшым не можа быць.
Інакш што яно можа зрабіць?
Інакш не зерне яно, а палова.
Слова павінна быць –
як насенне,
якое сеем мы ў дзень вясенні,
слова павінна прарастаць,
даваць усходы,
рунець,
красаваць.
Слова жывое – увасабленне
радасці,
мудрасці,
болю,
сумлення.
Калі яно робіцца нежывым,
што зможаш гады выказаць ім?..

* * *

Чую: пяюць усе тыя ж катрынкі,
што мы – народ без Божай іскрынкі.
Ніздары нямоглыя ды няўмекі.
Не пражывем без нейчай апекі.
Нічога не ўмеем, не маем нічога.
Загінем без розуму чужога...

На гэты паклёп пошлы, бязбожны
Ціха адказвае, чую, Радзіма:
"А крыж Узвіжальны майстра Богшы?
А жырандоль паэта Багрыма?"

**ПРА ДАРАВАННЕ**

Папа рымскі просіць даравання.
Папа ўкленчыў каля ўкрыжавання,
Згадвае Ісусаў Запавет...
Слухае і бачыць цэлы свет.
Чуе, пэўна, і мая краіна.
Боль кальнуў маю душу раўніва,
Калі тую я пачуў імшу.
Устрывожыў боль маю душу.
Хто і як, з амбону ці на пляцы,
Галаву схіліўшы пры распяцці,
На вачах усяго свету, -
Да народа звернецца майго?
Ды прамовіць у глыбокай скрусе:
"Выбачайце людзі Беларусі!
Бачыць Бог і сын яго Ісус;
Просім даравання, беларус!
Просім даравання за ўсе беды,
За падман і крыўду, што ты зведаў,
За знявагі, здзекі і разбой,
Што ўчынілі злыдні над табой".

Мы ці дачакаемся такога?
Калі не – то на якога Бога
Можам спадзявацца мы тады?
Можа, толькі на сябе, браты!..
Папа рымскі просіць даравання.
Папа ўкленчыў каля ўкрыжавання.
Промень міласэрнасці не згас...
Хто папрасіць даравання ў нас?
І калі надыдзе гэты час?!



## Данута Бічэль

***1999***

***Тры дзявяткі, як тры апалонікі.***
***Мы пайшлі да Масквы, бо паломнікі.***
***Мы – палоннікі. Мы – паклоннікі.***
***Нас муштруюць і лічаць пакойнікі.***

*Хто забраў Беларусь пад канвой –*
*Груз на шыю і ў вір галавой!*
***Хто здае сваю маці ў прыгон,***
***Той і ў пекле не знойдзе гамон.***

***Наліваючы нафту і газ***
***У разумных расейцаў за так,***
***Камбінуе савецкі жабрак***
***Заграбастаць Расею ў калгас.***

***На скрыжалях бясслаўных дарог***
***Хто астрог збудаваў, той і здох.***
***На Крыжах здзірванелых дарог***
***Нашу долю трымае наш Бог.***

***СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ ПАЭТА АНАТОЛЯ ІВЕРСА***

***А нянавісць і талент***
***У тым самым не месцяцца сэрцы.***
***Смерць – збавіцелька добрая,***
***Знойдзе Паэтавы сенцы.***

***Дэфензіва бязлітасна пяткі лупіла,***
***Ногі адбіла, не дастала душы.***
***Што Паэту сямейнага ложка магіла!?***
***Ды яго ўсё жыццё, хто пры ўладзе – душыў.***

***Як прынеслі нарэшце ў Край гэты***
***Вызваленне, свабоду саветы, -***
***Вось тады ад сваіх і дастаў жа Паэт,***
***Нават мілым падаўся той свет...***

***Але з іхняга пекла, як з усіхняга вылез.***
***І душу сваю вынес, і не знішчыўся Іверс.***
***Як настоены чэмер на Чамярах,***
***Гэтак словам лупіў па мазгах.***

***Ды пайшлі ад Паэта да Бога дзяўчаты –***
***Вера ў Калдычаве, Ніна з ціхае хаты.***
***І распаўся прыгожы дуэт.***
***І складае Самотны Паэт***
***Свой самотны санет пра сусвет.***

***Нехта тут лішні, а нехта тут горшы,***
***Не памяняюцца ўжо між сабой.***
***Сярод мёртвых жывых,***
***бессмяротных памёршых***
***Паэт прапівае свой боль.***
***Як студэнтаў, сяброў адпускае на лета.***
***Мае Паэт сябе за Паэта.***

*Васіль Зуёнак*

### РОДНАЕ

Роднае слова – народа аснова:
З ім і малы – магутны.
Слова душу ахінае пакровам
На скрыжаваннях пакутных.

Роднае –
Богу ўгоднае
Слова,
Што прамаўляюць прарокі.
Роднае слова – вырак суровы,
Хто ад яго адрокся.

Роднае слова – страла Перунова
Ў чорныя сэрцы выроддзя.
Роднае слова, родная мова –
Голас Радзімы ў стагоддзях.

*Сяргей Грахоўскі*

### Дзякуй Богу

І я, як і ўсе, паміраю,
Нічога больш не трэба мне,
Не рвуся з апраметнае да раю,
Бо страшны суд нікога не міне.

Хацеў бы нарадзіцца я нанова
І звязаныя рукі развязаць,
Пачуць, што ўваскрэсла наша мова
І "Дзякуй" Богу за яе сказаць.
9.II.2001.

* * *

Хто з Маці і матчынай Мовы смяецца,
Той збіўся з дарогі і ў багне загруз.
Калі хоць адзін беларус застанецца,
Адродзіцца вольная Бе-ла-русь.
11.II.2001.

### Замова

Чытаю замову за родную мову,
За шчасце і волю Зямлі.
Мы помнім знявагі, і здзекі, і змовы,
А вечную мову ўсё ж зберaглі.

Яна, як сумленне, яна, як аснова,
Яна, як паходня, у чужых руках,
Бо матчына слова, бо родная мова
Свяціла і будзе свяціць у вяках.
27.II.2001.

**Генадзь Тумаш**

*Гнездавацца закарцела ўдоду*
*Ў маляўнічай, казачнай мясціне.*
*Квапна аглядаў гаёк, крыніцу*
*І дупло ў разгалістай хвaіне.*
*Квапна зіркаў на гняздо,*
*Дзе жыла сям'я драздоў.*
*Новую мясціну весняю парой*
*Абжываў удод з удодзіхай сваёй.*
*У гняздзе лясным*
*Удодзікі прыйшлі на свет,*
*Віншаваў удода дрозд-сусед,*
*Зычыў удодзікаў штогод.*
*Дзякаваў яму дзюбасты ўдод,*
*Галавою з чубам-веялам*
*Драздоў аддаў уклон,*
*Запрасіў, каб ён*
*Першым госцем стаў,*
*Каб з усёй сямейкай завітаў*
*У гняздо-дупло.*
*На запросіны адмовы не было.*
*Любасць да свайго гнязда*
*Не згасла анідзе ў дразда.*
*Думаў дрозд, што ўдоды*
*Гэтакай пароды.*
*Вут-вут-вут!*
*Я тут! Я тут!" –*
*Сустракаў гасцей удод.*
*Ды запрошаных гасцей*
*Спыніў смурод,*
*У гняздзе-дупле*
*Бліщчэў птушыны бруд.*
*Дрозд, і драздзіха, і драздзяняты*
*Падаліся з хаты.*
*Адлятаючы, пачулі,*
*Як смярдзючы ўдод*
*Зняважаў драздовы род.*
*Назаўжды*
*Любы свой гаёк пакінулі дразды*
*І звілі сабе гняздо ў ляску другім,*
*Каб удод смярдзючы*
*Анідзе не стрэўся ім.*
*Смутак, жаль парою весняй*
*Чуецца ў драздовай песні.*
*Жаль і смутак па гайку,*
*Дзе спрадвеку гнездаваліся дразды.*
*Не вяртаюцца яны туды,*
*Аніколі не бываюць,*
*Той гаёк Удодаўкай*
*Апошнім часам называюць.*
*Там замоўк птушыны спеў,*
*Там удод-смярдзяк засеў.*
*Ганьбіць ён драздоў,*
*Ганьбіць песню іхную,*
*Ганьбіць іхнае гняздо.*
*Кожны дрозд з прычыны гэтай*
*Драздзянятак вучыць:*
*"Дрозд гняздзечка роднага*
*Ніколі не забрудзіць.*
*У сваё гняздо паскудзіць*
*Толькі ўдод, удод смярдзючы".*

## *Святлана Багданкевіч*

**ДЗВЮХМОЎЕ**

Усім па мове,
Ну, а ў нас – дзве мовы.
Дзве маткі?
Вобраз трапны, хоць не новы.
Нібы ласкавае,
З той прыказкі, цялятка,
Мы хочам схітраваць –
Смактаць дзве маткі.
Але ці ўдасца ашукаць прыроду?
Такі імпэт
Каб не прывёў
Да зводу!

* * *

Невалоданне роднай мовай... У тым –
Падабенства якойсці хваробы.
Штось накшталт нематы, глухаты
Ці нястраўнай вантробы,
Штось накшталт слепаты, забыцця
Свайго імені, племені, роду,
Штось накшталт пры жыцці – небыцця,
Адрачэння і ў прочкі зыходу.
Як маўленне, чужое й мысленне.
Гэткі звычай нялюдскі, нянаскі...
Штось накшталт адмаўлення
Ад божае ласкі.





# 25 сакавіка 83 гады БНР



Камендатура БНР у Горадні ў 1919 г.

### Прэзідэнты Рады БНР

| | | |
|---|---|---|
| 1877 – 1943 | Васіль Іванавіч Захарка | 1928 – 1943 |
| 1887 – 1976 | Радаслаў Казіміравіч Астроўскі, прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР)* | 1943 – 1948 |
| 1903 – 1970 | Мікола (Мікалай Сямёнавіч) Абрамчык (у Парыжы) | 1947 – 1970 |
| 1903 – 1989 | Вінцук Жук-Грышкевіч (у Манрэалі) | 1970 – 1982 |
| 1918 г.нар. | Язэп Сажыч (з 1983 г. у ЗША) | 1982 – 1997 |
| 1936 г.нар. | Івонка Сурвіла (у Канадзе) | з 1997 г. і да цяперашняга часу |

** з траўня па ліпень 1918 г. на Беларусі існавала два ўрады БНР. Яны ўтварыліся ў выніку расколу ў кіраўніцтве Рады БНР.*

*Рада БНР не прызнала рашэнне Другой Усебеларускай канферэнцыі, якая адбылася ў Берліне 12 – 16 студзеня 1925 г. Яна ж не прызнала законным Другі Усебеларускі кангрэс, скліканы ў Менску ў 1944 г. і створаную на ім Беларускую Цэнтральную Раду (БЦР). БЦР пасля другой сусветнай вайны праяўляла асветніцкую дзейнасць у Заходняй Германіі, Англіі, Канадзе, Аўстраліі. У Аўстраліі дзейнасць БЦР працягвалася да 1980 г.*

### Міністры ўнутраных спраў БНР

| Імя і прозвішча міністра | Час знаходжання на пасадзе |
|---|---|
| **І. Макрэеў** | 07.03.1918 – 01.01.1919 |
| **Кіпрыян Кандратовіч** | май – чэрвень 1918 |
| **Кузьма Цярэшчанка** | сакавік – кастрычнік 1919 |
| **Тамаш Грыб** | 1920 – 1923 |

### Прэзідыюм Рады БНР, абраны 19 сакавіка 1918 г.:

**Я. Серада** – старшыня,
**Я. Варонка** – сябра,
**К. Езавітаў** – сакратар.

### Прэзідыюм Рады БНР, абраны Радай 13 снежня 1919 г.:

**Пётра Крачэўскі** – старшыня,
**Палута Бадунова** – таварыш старшыні,
**Васіль Захарка** – таварыш старшыні,
**Козіч – сакратар,**
**Язэп Мамонька** – сакратар

### Склад найвышэйшай Рады БНР у снежні 1919 г. – 1921 г.:

**Язэп Лёсік, Ян Серада, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Аляксандр Уласаў, Кузьма Цярэшчанка.**

Дзеля справядлівасці неабходна сказаць кіраўнікі і міністры БНР, якія прыехалі ў БССР або апынуліся ў СССР былі арыштаваны і загінулі ў ГУЛАГу. Пераліčу іх прозвішчы: А.Луцкевіч, В.Ластоўскі, А.Цвікевіч, Я.Лёсік, К.Езавітаў, А.Смоліч, П.Бадунова і іншыя. Па старасці пайшлі на той свет толькі тыя, хто жыў у эміграцыі: Я.Варонка, П.Крачэўскі, Т.Грыб, В.Захарка і інш.

*Сымон Барыс.*

## Малавядомы дакумент часоў БНР

***Не так даўно ў мемуарах Арнольда Марголіна (па паходжанні ўкраінскі габрэй) давялося адшукаць сенсацыйны дакумент. Па змесце яго можна прыраўняць хіба што да трох устаўных грамат БНР, дзе абвяшчалася незалежнасць Беларусі. Дакумент, шкада, зусім невядомы беларускаму грамадству. Нават у першым томе зборніка "Знешняя палітыка Беларусі" (Мн.,1998) ён мне не патрапіўся, хаця выданне гэта вельмі грунтоўнае. У зборніку дакументаў "Архівы БНР" таксама не адшукаў (няўжо дрэнна шукаў?). Найпраставае пацверджанне знайшоў толькі ў мемуарах Мануіла Марголіуса – ідэйнага суперніка А. Марголіна. У іх узгадваецца пра наяўнасць дадзенага дакумента. Дакумент з'яўляецца добрым прыкладам таго, што і ў 1919 г. беларусы выказваліся за незалежнасць і адвяргалі прапановы белагвардзейцаў, за якімі стаялі краіны Антанты, аб федэрацыі з Расеяй.***

*Вадзім Прэўрацкі, студэнт гістфака БДУ.*

... Разам са мною ад імя ўкраінскага ўраду заяву падпісаў д-р Галіп, ад Кубані – Л. Л. Быч, ад Беларусі – ген. Бахановіч, ад Дону – генерал Чарачукін.

Настрой ува ўсіх у момант падпісання быў урачысты. Верылася, што знойдзена агульная мова. Памятаю, шаноўны генерал Чарачукін нават пакрыў сябе крыжовым знакам перад падпісаннем.

Прыводжу цалкам тэкст гэтай заявы:

"Ніжэйпадпісаныя, прадстаўнікі Украіны, Беларусі, Дону і Кубані, якія сабраліся ў Адэсе, на сумеснай нарадзе пастанавілі звярнуцца да Вярхоўнага Камандавання дзяржаваў Антанты з ніжэйпададзеным мемарандумам па пытаннях:

1.Аб рэформе дзяржаўнага ладу гэтых тэрыторый, роўна як і суседніх з імі дзяржаўных утварэнняў.

2. Аб шляхах і метадах для задушэння анархіі і бальшавізму ўва ўсіх тых дзяржавах і частках, на якія распалася Расея.

I

Самыя перакананыя прыхільнікі непасрэднай і неадкладнай перабудовы мінулай унітарнай расейскай дзяржавы на федэратыўных пачатках павінны прызнаць, што падзеі апошніх 18 месяцаў, у сувязі з катастрофай, што спасцігла Расею пасля бальшавіцкага перавароту 25-га кастрычніка 1917 года, стварылі непераадольныя перашкоды для ажыццяўлення такога роду "федэрацыі зверху".

Наогул гісторыя ўзнікнення дзяржаваў ведае мала выпадкаў найпраставага і непасрэднага пераходу ад цэнтралізаванай і ўнітарнай формы дзяржаўнага ладу да федэратыўнай. Такога роду доследы былі прымененыя з большым ці меншым поспехам у некаторых паўднёва-амерыканскіх дзяржавах (Балівія, Венесуэла і г.д.).

Але краіны найбольш вядомыя сваім узорным федэратыўным ладам, прыйшлі да федэрацыі не зверху, а знізу. Злучаныя Штаты Паўночнай Амерыкі і Швейцарыі ўтварыліся шляхам злучэння асобных штатаў ці кантонаў. Пераход ад саюзу дзяржаваў да саюзнай дзяржавы – такім быў вынік гістарычнай эвалюцыі і хады падзей у гэтых дзяржавах.

Свабоднае пагадненне, заснаванае на добрай свабоднай волі асобных дзяржаваў ці кантонаў, папярэднічала такога роду рэарганізацыі на федэратыўных пачатках.

Прыклад паўднёва – амерыканскіх дзяржаваў натхняў тыя палітычныя партыі, якія ўявілі ў сваю праграму перабудову Расеі ў федэратыўную дзяржаву.

На карысць федэрацыі канкрэтна выказаліся ўслед за дзяржаўным пераваротам ад 27-га лютага 1917 года Вялікі Вайсковы Круг Дону, Абласная Кубанская Рада і Беларуская Рада, як і большасць палітычных партый расейскіх, украінскіх і іншых. Усерасейскі Ўстаноўчы Сход паспеў за кароткія гадзіны свайго існавання абвясціць, што Расея павінна быць арганізавана на федэратыўных пачатках.

Але пасля гэтага Расея фактычна распалася. У выніку знікнення цэнтральнай улады тыя часткі краіны, якія не прызналі бальшавіцкага рэжыму, арганізавалі пры дапамозе здаровых элементаў мясцовую ўладу і былі вымушаны абвясціць сябе сувярэннымі дзяржаўнымі адзінкамі.

І не было ўжо той цэнтраімклівай сілы, якая магла б не толькі праклямаваць, але і ажыццявіць такога роду перабудову старога будынка на новых федэратыўных падмурках.

На сёння федэрацыя зверху была б магчымай толькі шляхам умяшання сілаю замежных дзяржаў, шляхам прымусу.

Па-за гэтым шляхам федэрацыя зверху ўяўляецца не здзяйснільнай і застаецца толькі шлях федэрацыі знізу, пабудаванай на дабраахвотнай згодзе, як роўных з роўнымі дзяржаўных ячэяк, што ўтварыліся на развалінах старой Расеі.

Толькі такой можа быць здаровая і жыццёвая праграма тых федэралістаў, якія грунтуюць свае пабудовы не толькі на ўласных жаданнях і спадзяваннях, але і на рэальнасці суадносінаў сілаў і агульным палітычным становішчы.

Зыходзячы з усяго выкладзенага, мы прадстаўнікі Украіны, Беларусі, Дона і Кубані, прыйшлі да глыбокага перакканання, што пытанне дзяржаўнага ладу гэтых чатырох адзінак можа атрымаць хуткі і належны развязак толькі шляхам асобнага ажыццяўлення пачаткаў дзяржаўнасці і парадку ў кожнай з іх.

Ёсць падставы меркаваць, што і іншыя дзяржаўныя ўтварэнні далучацца да гэтай нашай формулы.

І мы звяртаемся, праз пасярэдніцтва Высокага Саюзнага Камандавання, да дзяржаваў Атланты з просьбаю пра аказанне магчымай дапамогі нацыянальным імкненням нашых народаў да ўмацавання ўжо створаных асобных утварэнняў.

І толькі пасля задушэння бальшавізму і анархіі, калі насельніцтва кожнага такога ўтварэння будзе мець магчымым свабодна выказаць сваю сапраўдную волю, надыйдзе час для высвятлення тых ці іншых умоваў пагаднення паміж імі на пачатках свабоды, роўнасці і братэрства ўсіх народаў, пачатках, выказаных вашымі вялікімі нацыямі.

II

Пераходзячы да пякучага пытання пра найлепшыя і карацейшыя шляхі да ліквідацыі анархіі і бальшавізму, мы дазваляем сабе звярнуць увагу Вярхоўнага Камандавання на адзін найбольш істотны факт.

Поспех у барацьбе з бальшавізмам з'явіцца найбольш дасягальным у тым выпадку, калі гэтая барацьба будзе аснована на выкарыстанні ў кожнай вобласці мясцовага насельніцтва, як крыніцы жывой сілы. Абарона ўласнага дома, свайго агменя, сваёй сям'і, свайго народа – такія павінны быць лозунгі, да якіх трэба апеляваць для выкарчоўвання бальшавізму.

Мы звяртаемся да Саюзнага Камандавання таксама па тэхнічную дапамогу і па ўсе тыя прадметы, якіх у нас зусім няма ці якія ёсць у недастатковай колькасці.

У першую чаргу нам неабходны стрэльбы, патроны, мітральезы (станк. кулямёты), цяжкая артылерыя, а ў асаблівасці танкі і бліндзіраваныя (браніраваныя) аўтамабілі. Адчуваецца недахоп таксама ў вайсковым рыштунку, у абутку, вопратцы, сродках сувязі і ў санітарных матэрыялах.

Мы мяркуем, што не варта ўскладняць чыста ваенную задачу барацьбы з бальшавізмам імкненнем да арганізацыі адзінай арміі для аперацый ува ўсіх абласцях, ахопленых яго полымем.

Але мы дапускаем, што для больш паспяховай арганізацыі барацьбы трэба стварыць агульны генеральны штаб для кіраўніцтва ўсімі аперацыямі на аснове ўзаемнага пагаднення дзяржаўных новаўтварэнняў, якія знаходзяцца ў стане вайны з бальшавізмам, паміж сабою, і ў кантакце з дзяржавамі Антанты. Такі штаб не павінен быў бы ўмешвацца ў палітычнае жыццё і ўнутраныя справы дзяржаўных новаўтварэнняў".

Заява была пададзена паводле прызначэння ўжо 5-га лютага 1919 г. Яна з'явілася ўва ўсіх адэскіх газетах, выклікала ўсеагульную да сябе ўвагу і жорсткія напады з боку прадстаўнікоў той палітычнай плыні, якая чакала выратавання Расеі ад Дабраахвотніцкай Арміі. Пазней аказалася, што ў Адэсе знаходзіцца беларускі консул Некрашэвіч, які аспрэчваў правамоцнасць дэлегацыі Бахановіча і меў даверанасць ад беларускага ўраду *(Ураду БНР, рэд.)*. Мы не маглі ўмешвацца ў разгляд чужых нутраных справаў, а таму задаволіліся тым, што Некрашэвіч у сваю чаргу далучыў свой подпіс да нашай заявы, пра што апавясціў і вярхоўнае саюзнае камандаванне. Як мы ўстанавілі, французы лічылі Некрашэвіча прадстаўніком больш аўтарытэтнай плыні ў Беларусі...

... Дзяржавы Антанты не прыслухаліся да тых заклікаў аб дапамозе мясцовым сілам, якія потым так часта паўтараліся намі і ў Парыжы, і ў Лондане, і ў Рыме. І толькі падзенне Калчака, Дзянікіна, Юдзеніча і Ўрангеля наглядна паказала Антанце ўсю бязмэтавасць і безвыніковасць прымянення ўсерасійскіх, цэнтралістычных лозунгаў у барацьбе з анархіяй. Адзінай сілаю, якую можна было супрацьпаставіць тады бальшавізму, быў мясцовы патрыятызм, як творчы пачатак, у супрацьвагу анархіі. Было ўжо тады ясна, што ўкраінцы не пойдуць ваяваць з бальшавізмам у Сібір, што грузіны не згодзяцца паміраць на палях Эстоніі, што эстонцы ўхіляцца ад наступу на Маскву...

